Беларуская газэта

# НАША НІВА

№4, 1995



Берасьце ліпень 1941 г Здымак з архіву Л Вашкоўскага

II Сусьветная вайна ў Беларусі не пачалася ў 1941-м і ня скончылася ў 1945-м. Яе вынікі аспрэчваюцца. Яе пераможца — Савецкі Саюз — больш не існуе. Яе слава й ганьба пераглядаюцца й пераацэньваюцца. Той парадак рэчаў, які ў 1945-м сьцьвердзіла ў Эўропе Перамога, паступова ператвараецца або гвалтоўна ламаецца назад, на даваенны ўзор. На зьмену пераможанаму гітлераўскаму фашызму сеньня толькі ў Расеі прыйшлі дзясяткі фашыстоўскіх арганізацый, якія прагнуць улады й снуюць планы новага перадзелу сьвету. Фактычнае далучэньне Беларусі да Расейскай Фэдэрацыі на рэфэрэндуме 14 траўня можа стацца дакладным паўтарэньнем перадваеннага сцэнару, паводле якога Аўстрыя аддавала сваю незалежнасьць на карысьць фашыстоўскай Нямеччыны... Так паступова нічога не застаецца ад вынікаў Перамогі. Адзіны назаўседы нязьменны вынік — мільёны людзкіх ахвяраў. Найгоршае, што могуць рабіць сучасьнікі ў дачыненьні да іх памяці, — казаць пра вайну няпраўду.

Навэла

## Пасадзі дрэва, забі сьвіньню

Іра Ульстэровіч



Працоуны дзень скончыуся. Стоц стаяу на прыступках сваёй установы й патанаў у цяжкім, нібы бітум, разважаньні Праблема была простая тым больш, што вырашаць яе прыходзілася неаднакроць Але сёньня ён быў зьнясілены й разьбіты ўшчэнт, каб пра нешта ўвогуле думаць.

Па небе, як заўседы з Захаду, цягнулася брыдкая, стылая шэрасьць Як і ўчора і пазаўчора, і, здавалася усе жыцьцё. Неяк увечары памерла сонца і, чамусьці, забылася ўваскрэснуць Стоц штодня ўпарта маляваў разнастайныя варыянты свастыкаў: маленькія, сярэднія, вялікія; чорныя, сінія, чырвоныя Але сонца не зьяўлялася Стоц думаў што звар'яцее

Ен нават не прыняў ніякага рашэньня Проста пайшоў за купкаю гаманлівых жанчын да гастраному Там была гарэлка а дома яна ўжо скончылася Але напрасткі да хаты на сотню крокаў бліжэй Вось і ўся праблема

Пляшку й цытрыны Стоц паклаў у партфэль. Пляшку асобна, цытрыны асобна Каля самага дому намацау у кішэні пусты цыгарэтны пачак Вылаяўся ўголас Брыдка, з мацюкамі. Ведама ж, на сябе, але бабуля, якая побач выгульвала ўнука, ажно здрыганулася і зь нянавісьцю, на якую толькі была здольная, неяк па зьмяінаму зашыпела

Мацюкі падбадзерылі Стоца, і, кіруючы назад да крамы, ен нават згадаў пра яе "Патэлефаную Хаця не. Не, не, не!" Стоц нават крутнуў у знак рашучай нязгоды галавою "Абрыдла гэтая заўседная радасьць Яна ніколі не сумуе. А гэтае вар'яцкае "праўда?' Што ні скажы — "праўда?" Ахвяра сусьветнай радасьці... Гатовая кахацца ўжо ў вітальні, абы не губляць часу... Сьвіньня"

Стоц прыгадаў тую раніцу, калі, узьняўшыся з ложка, убачыў, што ўсю ноч крутаўся на скрываўленай

Працяг на старонцы 4

